


Віталь БАРТАН



# ЛАГІЧНЫЯ ПАРАДОКСЫ

*Віталь БАРТАН (дацэнт кафедры гісторыі філасофіі і логікі Белдзяржуніверсітэта) падрыхтаваў да друку рукапіс кнігі «Логіка моўных зносін».*

*Ужо сам па сабе факт стварэння падручніка па адной з найбольш складаных філасофскіх дысцыплін (фармальная логіка) дастаткова важкі, каб быць заўважаным. Але ёсць у гэтым факце яшчэ адзін вельмі істотны момант, які вылучае працу Віталя Бартана з шэрагу падобных: ці не ўпершыню ў гісторыі айчыннай філасофскай навукі падручнік прадуманы і напісаны па-беларуску.*

*На жаль, перад аўтарам паўстала амаль невырашальная праблема: дзе і як надрукаваць рукапіс?*

*Спадзяемся, што публікацыя апошняга раздзелу кнігі «Логіка моўных зносін» (у скарочаным выглядзе) прыцягне ўвагу выдаўцоў, і справа вырашыцца на карысць беларускай філасофіі.*

Парадоксы (ад грэч. paradoxas — нечаканы) уяўляюць сабой найбольш цікавую лагічную з'яву. Парадокс наогул — гэта сітуацыя, якая ўтрымлівае ў сабе супярэчныя магчымасці. У якасці прыкладу прывядзем парадокс «Парламенцкі закон», які аўтар прыдумаў спецыяльна для падручніка.

Уявіце сабе, што парламент нейкай краіны прыняў закон такога зместу: *адмяніць дзеянне ўсіх законаў у краіне,* — і спецыяльнай пастановай увёў яго ў дзеянне з моманту прыняцця. Гэтым законам парламент стварыў парадаксальную сітуацыю. Увайшоўшы ў дзеянне, закон адмяняе дзеянне ўсіх законаў, у тым ліку і сябе, а як толькі адмяняецца дзеянне гэтага закону, то аднаўляецца дзеянне ўсіх законаў, у тым ліку і гэтага. Такім чынам, выкананне прынятага закону цягне за сабой яго невыкананне, а невыкананне цягне за сабой яго выкананне. Атрымліваецца сітуацыя, якая напамінае прынцып дзеяння электрычнага званка: уключаючыся, ён выключаецца, а выключаючыся — уключаецца. Сітуацыя, такім чынам, утрымлівае ў сабе супярэчнасць.

*Лагічным парадоксам* называюцца два супярэчныя выказванні, праўдзівасць якіх мае аднолькава моцнае абгрунтаванне. Лагічныя парадоксы вядомы людзям са старажытнасці. Найбольш цікавыя з іх захаваліся да нашых дзён. Існуе думка, што парадоксы ўяўляюць сабой невырашальныя лагічныя праблемы, што яны захоўваюць у сабе тайну, адкрыць якую наканавана будучым пакаленням. Лагічным парадоксам прысвечаны шматлікія навуковыя працы, у якіх прапануюцца розныя варыянты іх рашэння.

Разгледзім, ці ўсё так складана, як падае гэтае меркаванне. З гэтай мэтай прааналізуем некаторыя з найбольш вядомых парадоксаў — старажытных і сучасных. Пачнем з найбольш вядомага старажытнага парадокса, які носіць назву «ілгун». З гэтым парадоксам звязаны лёсы многіх людзей, у тым ліку і трагічныя. Дзякуючы гэтаму парадоксу застаўся вядомым у гісторыі яго аўтар Эубулід з Мілета. Ходзіць легенда, што нейкі Філіт Коскі пакончыў з сабою ад адчаю, не змогшы вырашыць яго. Адзін з вядомых старажытнагрэчаскіх логікаў Дыядор Кронас ужо ў старасці прысягнуў не прымаць ежу да таго часу, пакуль не вырашыць гэты парадокс. Так і памёр, бядак, не здолеўшы гэтага зрабіць.

Прыводзім найбольш простую фармулёўку згаданага парадокса, сутнасць якога ад гэтага не змяніцца. Нехта кажа: *«Я ілгу»* — і, акрамя гэтага цверджання, нічога больш не гаворыць. Узнікае пытанне, што выражае гэтае цверджанне — праўду ці няпраўду? Калі чалавек, які сцвярджае: «Я ілгу», сказаў праўду, то ён салгаў, а калі ён салгаў, то сказаў праўду. Атрымліваецца, такім чынам, парадокс — палажэнне, праўдзівасць і непраўдзівасць якога аднолькава даказальны.

Паспрабуем выявіць памылкі, якія ляжаць у аснове гэтага парадокса. Па-першае, дзеяслоў *ілгу* можа ўжывацца ў дадзеным цверджанні толькі ў патэнцыяльным сэнсе. Той, хто пытаецца аб яго праўдзівасці ці непраўдзівасці няяўна мяркуе, што ён мае актуальнае значэнне. Другімі словамі, мяркуецца, што чалавек можа ілгаць самым актам прагаворвання сказа *«Я ілгу»*.

Па-другое, у пытанні аб праўдзівасці дадзенага сказа ён бярэцца ў матэрыяльнай супазіцыі, у той час як адказ на яго прадугледжвае выкарыстанне яго ў фармальнай супазіцыі. Мы пытаем аб лагічным значэнні выказвання, а ў адказе гаворым пра чалавека, які выказаў яго.

Па-трэцяе, лгаць можна, гаворачы аб чымсьці, а не проста ілгаць, не гаворачы ні аб чым. Узяты ізалявана з выкарыстаннем дзеяслова *ілгу* ў актуальным значэнні, гэты сказ з'яўляецца незакончаным, а таму бессэнсоўным. Асэнсаваным пры гэтым значэнні дзеяслова ён быў бы ў наступным варыянце: *Я ілгу, гаворачы аб тым-та і тым-та.*

Па-чацвёртае, зададзенае пытанне імпліцытна ўтрымлівае ў сабе таўталогію. Сказаць *«Я ілгу»* — тое самае, што сказаць: *«Гэта — няпраўда»*, не паказваючы пры гэтым ні на адно выказванне і адносячы ўказальны займеннік *гэта* толькі да слова *няпраўда.* Тады сфармуляванае вышэй пытанне будзе пераўтворана ў такую форму: ці з'яўляецца выказванне *«гэта — няпраўда»* няпраўдай ці праўдай? Пытанне гэтае не мае сэнсу, як не маюць сэнсу пытанні накшталт *«А ці ходзіць хадзьба? А ці развіваецца развіццё?»* Адказ на яго: няпраўда з'яўляецца няпраўдай — уяўляе сабой звычайную таўталогію, а адказ: няпраўда з'яўляецца праўдай — змяшчае лагічную супярэчнасць.

Мы так падрабязна запыніліся на аналізе парадокса «ілгун», каб паказаць, наколькі цяжкім можа быць аналіз тупіковых сітуацый у мысленні для недасведчанага ў логіцы чалавека. Цяжкасць з аналізам менавіта гэтага парадокса заключаецца ў тым, што ў ім, у адрозненне, напрыклад, ад парадокса «Парламенцкі закон», утрымліваецца не адзін, а некалькі розных лагічных хібаў. Як бачым, кароль парадоксаў, як часам яго называюць, аказаўся голым. Але каб вам не падалося ўсё занадта простым, вазьміце дзве карткі паперы і пранумаруйце іх. На адной картцы напішыце — *усё, што напісана на картцы №2 — праўда,* а на другой — *усё, што напісана на картцы №1 — няпраўда.* Пасядзіце і паразважайце над узнікшай сітуацыяй.

Разгледзім яшчэ адзін не менш знакаміты старажытны парадокс пад назвай «Эватл». Нехта па прозвішчу Эватл звярнуўся да вядомага сафіста Пратагора з просьбай навучыць яго праву. Пратагор згадзіўся і прапанаваў Эватлу такую ўмову: Эватл заплаціць грошы за навучанне пасля таго, як выйграе свой першы судовы працэс. Скончыўшы навучанне, Эватл, каб не плаціць грошы Пратагору, не стаў займацца юрыдычнай практыкай. Страціўшы надзею атрымаць грошы, Пратагор прыгразіў Эватлу падаць на яго ў суд, на што Эватл адказаў свайму настаўніку:

— Я ўсё роўна не заплачу табе грошы, Пратагор. Калі суд прысудзіць заплаціць табе грошы, то я прайграю свой першы працэс і, згодна з нашай умовай, не заплачу табе іх, а калі суд прысудзіць не плаціць табе грошай, дык я не заплачу іх, згодна з пастановай суда.

На што Пратагор адказаў:



— У кожным выпадку, Эватл, ты павінен будзеш заплаціць мне. Калі суд прысудзіць заплаціць мне грошы, то ты будзеш вымушаны заплаціць мне іх паводле пастановы суда. Калі ж суд прысудзіць не плаціць мне грошай, то ты выйграеш свой першы працэс і вымушаны будзеш заплаціць, згодна з нашаю ўмоваю.

Кожны з іх нібыта мае рацыю, таму паўстае пытанне, павінен ці не павінен Эватл плаціць Пратагору.

Памылка, на якой заснаваны гэты парадокс, ляжыць на паверхні, і кожны больш-менш адукаваны юрыст пакажа, у чым тут справа. Дзіўна, што вучоныя, пачынаючы з самога Пратагора, які, будучы азадачаным гэтай сваёй сітуацыяй, напісаў нават спецыяльны трактат «Цяжба аб плаце», які да нас не дайшоў, і канчаючы сучаснымі вучонымі, лічаць гэты парадокс невырашальным. Цікава, што вядомы нямецкі матэматык і філосаф Г.Лейбніц, сам юрыст па адукацыі, у сваёй доктарскай працы «Даследаванне аб заблытаных казусах у праве» прапанаваў вырашыць яго так: суд адмаўляе Пратагору за несвоечасовасць звяртання з іскам, але захоўвае за ім права патрабаваць з Эватла грошы пазней, калі той выйграе свой першы судовы працэс.

Уся супярэчнасць гэтага парадокса ў недакладна вызначаным першапачаткова тэрміне *першы судовы працэс Эватла,* а менавіта — ва ўмове не агаворана, у якой ролі Эватл будзе выступаць у гэтым працэсе. З сітуацыі вынікае, што пад першым судовым працэсам Эватла Пратагор разумеў свайго роду іспыты на прадмет вызначэння якасці ведаў Эватла ў галіне права. Значыць, Эватл павінен быў выступіць на ім у ролі аднаго з яго бакоў — абвінаваўцы або абаронцы. А ў гэтым судзе ён павінен выступіць у ролі адказчыка. І на падставе таго, што Эватл з'яўляецца ўдзельнікам гэтага судовага разбору, яго называюць першым судовым працэсам Эватла. А, між іншым, такі першы судовы працэс у Эватла, які ён мог выйграць, мог быць да таго, як Эватл паступіў на навучанне да Пратагора. Ён мог быць да гэтага прыцягнутым судом да адказнасці за які-небудзь учынак і, апраўдаўшыся, тым самым выйграць свой першы працэс. Выходзіць тады, што Пратагор, ведаючы аб гэтым, мог адразу пасля заключэння паміж імі ўмовы, не прыступаючы да навучання, патрабаваць ад Эватла грошы на той падставе, што той ужо выйграў свой першы працэс. Тым самым стварылася б не проста парадаксальная, а абсурдная сітуацыя. Таму суд па іскавай заяве Пратагора не можа лічыцца першым судовым працэсам Эватла.

На заканчэнне разгледзім яшчэ парадокс Расэла, які вядомы пад назвай «Цырульнік». Фабула яго такая. Савет нейкай вёскі прыняў пастанову, абавязковую для выканання ўсімі мужчынамі вёскі, згодна з якою ні адзін мужчына не павінен галіцца сам, кожнага з іх павінен галіць цырульнік. Паўстае пытанне, хто павінен галіць цырульніка? Згодна з пастановаю, ён як цырульнік павінен галіць і сябе. Але калі ён будзе галіцца сам, то парушыць пастанову.

Парадокс тут узнікае ад падмены лагічнай сувязі слабой *дыз'юнкцыі** лагічнай сувяззю строгай дыз'юнкцыі. Другімі словамі, сумяшчальныя назвы *мужчына і цырульнік,* якія з самага пачатку прымаюцца за сумяшчальныя (у парадоксе гаворка ідзе менавіта аб мужчыне-цырульніку) інтэрпрэтуецца як несумяшчальная. Калі б яны на самой справе былі несумяшчальнымі, напрыклад прафесія цырульніка была выключна жаночай, то супярэчнасць не ўзнікла б і пабудаваць парадокс не ўдалося б. Голячы сябе, цырульнік не парушае пастанову савета вёскі. Згодна з гэтай пастановаю, ён як цырульнік голіць сябе як мужчыну, і калі б яго прыцягнулі да адказнасці за гэта, ён мог бы з поўнай падставай запярэчыць, што ён не галіўся сам, а яго ў яго асобе галіў цырульнік.

Парадоксы, такім чынам, займаюць прамежкавае становішча паміж сафізмамі і *паралагізмамі* (лагічнымі памылкамі, якія допускаюцца не наўмысна, а ў выніку недастаткова высокай культуры мыслення). З сафізмамі іх радніць тое, што яны будуюцца штучна, але памылкі, якія кладуцца ў іх аснову, допускаюцца не наўмысна, не з мэтай увядзення каго-небудзь у зман, а несвядома, па недаразуменню. Апошняя акалічнасць радніць іх з паралагізмамі, якія, аднак, не з'яўляюцца штучна пабудаванымі разважаннямі.

Аналіз прыведзеных тут прыкладаў паказаў, што ўсялякі парадокс можна вырашыць, калі дакладна ўскрыты тыя лагічныя недакладнасці, якія ляжаць у яго аснове. Спробы знайсці нейкі адзіны алгарытм вырашэння парадоксаў загадзя асуджаны на няўдачу, таму што супярэчныя сітуацыі могуць ствараць лагічныя памылкі рознай прыроды. Напрыклад, у парадоксе «Парламенцкі закон» такую сітуацыю параджае аказіянальнасць слова *ўсе.* Каб вырашыць яго, дастаткова зняць гэтую ўласцівасць са слова *ўсе* шляхам яго ўдакладнення — *усе, за выключэннем гэтага закону.*

Хаця лагічныя парадоксы ставяць недасведчаных людзей у становішча бурыданава асла, яны з'яўляюцца нічым іншым, як своеасаблівымі сафізмамі, у якіх адна лагічная з'ява выдаецца за другую.

Папярэдні аналіз паказаў таксама, што сродкаў традыцыйнай логікі дастаткова для вырашэння любога парадокса, які не можа быць вырашаны па-за яе межамі. Погляд на традыцыйную логіку як на састарэлую навуку, на змену якой нібыта прыйшла сучасная сімвалічная, або матэматычная, логіка, з'яўляецца памылковым. Традыцыйная логіка не састарэе і будзе сучаснай да той пары, пакуль будзе існаваць яе прадмет — жывыя моўныя зносіны.

* лацінскае — раздзяленне.

ЗНО

Постаці

## «ІМ НЕ СЫЙСЦІСЯ НІКОЛІ?..»

Беручы пад увагу Новую пару, свядомая, мэтанакіраваная экспансія Захаду на Усход ва ўсіх магчымых формах (ад палітычнай і эканамічнай да інтэлектуальнай) — відавочная і, падобна, не патрабуе аргументацыі. Значна складаней сцвярджаць адваротнае: прынамсі, да апошняга часу канстатацыі супрацьлеглага руху выдавала хутчэй на канстатацыю яго верагоднасці, а не на азначэнне самога факта. Аднак пры ўсёй пасіўнасці, абыякавасці Усходу да магчымасці пранікнення на Захад, у XX стагоддзі (асабліва ў яго другой палове) прысутнасць Усходу не толькі ў прасторы, але і ў філасофіі існавання Захаду робіцца ўсё больш прыкметнай. З чаго паўстае трывога: Усход наступае! Толькі ці вінен сам Усход у тым, што статычная, як у прасторы, так і ў часе, парадыгма быцця Усходу з нейкіх прычын перамянілася на дынамічную (пра эканоміку тут гаворка не ідзе, гэта асобая тэма). Хутчэй здарылася іншае... Традыцыйная сістэма каштоўнасцей Захаду (хрысціянства, эвалюцыя, класічнае мастацтва...) не вытрымала цяжару цывілізацыі і асыпалася. А новая на яе рэштках ніяк не паўставала. Крах, заняпад, гібенне... Але, як паступова высветлілася, тое, што Захад палічыў за пачатак канца, можа быць нармальным станам рэальнасці, калі на гэтую рэальнасць пакласці іншую сістэму каардынат, хаця б тую, што не адно тысячагоддзе праўдзіць жыццё на другім баку Зямлі... І тады Захад, ратуючы сабе, паклікаў Усход. Заакцэнтуем: сам паклікаў, каб абаперціся на яго дактрыну, якая вучыць «...што свет і ўсё навокал — зменлівае, неакрэсленае, парадаксальнае, а парадак падзей — усяго вытвор закасцянелага розуму і кожная спроба вызначэння таго парадку прызначана на няўдачу, так што ў спакойным усведамленні і ўхваленні такога стану рэчаў, уласна, і палягае найвышэйшая мудрасць і канчатковае азарэнне. Адвечная трагедыя асобы не ў немагчымасці растлумачыць свет, а ў прагненні зрабіць гэтае тлумачэнне» (У.Эка).

Мы не станем у гэтай невялічкай нататцы канкрэтызаваць тэндэнцыю засвойвання дактрыны Усходу ментальнасцю чалавека Захаду, дадамо адно колькі словаў, датычных непасрэдна Беларусі, а калі быць больш дакладным, то адно таго аспекту гэтай праблемы, якая напрасткі лучыцца з некаторымі матэрыяламі восьмага выпуску «ЗНО».

Калі браць пад увагу не ўвесь дыскурс Беларусі, а толькі тую яго частку, якую мы называем «нацыянальным асяродкам», то на сёння тут найбольш прыкметным адбіткам Усходу мусім прызнаць «рэрыхаўскі рух», які (як хрысціянскі — на Біблію) абапіраецца на Вучэнне Жывой Этыкі, што сфармавалася ў коле сям'і Рэрыхаў (найперш высілкамі Мікалая і Алены Рэрыхаў).

Уласна кажучы, «Жывая Этыка» — не зусім «Усход»; гэта, як вядома, сінтэз самых розных рэлігій, філасофій, культур ды навук Усходу і Захаду. Аднак нельга не заўважыць, што «сінтэзатарам» вучэння з'яўляецца ўсходні містыцызм, без якога «рэлігія трэцяга тысячагоддзя» (як гавораць яе заўзятары) не змагла б адбыцца.

Пэўна, можна па-ўсялякаму тлумачыць, чаму менавіта Вучэнне Жывой Этыкі выразней за што іншае (нават дзэн-будызм) абазначылася ў асяродку нацыянальнай, найперш творчай інтэлігенцыі. (Нагадаем хаця б прозвішчы Алеся Разанава, Ніны Мацяш, Галіны Прымы, Івана Ждановіча...)

Верагодна, тут нельга адпрэчыць «расейскага фактару» феномена Жывой Этыкі, фактару, які ўсё яшчэ істотна ўздзейнічае на прыярытэты выбару нашым «хачу» той ці іншай духоўнай спажывы. Як нельга зусім абысці ўплыў, досыць выразна пазначанай ў вучэнні «камуністычнасці», якая яшчэ доўга будзе выгукваць у нашых сэрцах сімпатыю да ўсяго, дзе яна прысутнічае, калі гэтае месца прысутнасці не пазначанае артадаксальным камунізмам ленінскага кшталту...

Аднак, галоўнае, думаецца не ў гэтых ды іншых фактарах, звязаных з феноменам Жывой Этыкі, а ва ўнутраных прычынах нашага жыцця.

Канфесійна здавён, а пасля перабудовы і ідэалагічна, раздробленая духоўная прастора беларускага дыскурсу шукала (і працягвае шукаць) сярэдзіны самой сябе, нейкага галоўнага апірышча, цэнтральнай тэасафемы, якая б стварыла магчымасць задзіночання, цэласнасці. І калі б такія рэчы маглі адбывацца штучна, воляй і розумам людзей, то Вучэнне Жывой Этыкі на Беларусі, дзе талеранцыя, вунія, фаталізм і прагматызм маюць анталагічна заглыбленую падставовасць, — магло б рэальна прэтэндаваць на ролю гэткага цэнтра... Толькі падобныя рэчы на Зямлі, здаецца, не творацца...

Зрэшты, хто скажа, як яно там будзе наперадзе, можа і напраўду знакамітая формула Кіплінга ("Захад ёсць Захад, Усход ёсць Усход і ім не сыйсціся ніколі") некалі абернецца сваёй супрацьлегласцю...

Але пра тое будуць ведаць жывыя.

**В.А.**

Янка БРЫЛЬ

## «НЕ, НЕЗДАРМА Я ТАМ...»

(Фрагменты з эсэ «Душа — не падарожніца»)

«Што за карысць з вачэй, у якіх няма дабраты?»

Словы гэтыя, прачытаныя пасля звароту з Індыі, уразілі мяне неяк вельмі ж канкрэтна, ажывіўшы ў памяці мноства вачэй, з якімі так нядаўна і так далёка ад дому сустракаліся мае вочы...

* * *

Яшчэ ў сёмым стагоддзі нашай эры славуты кітайскі паломнік І Цзынь лічыў, што для Індыі найбольш падыходзіць назва «Зямля высакародных».

* * *

«Пры ўсёй маёй вялікай адданасці Індыі, я даўно лічыў, што нам патрэбна штосьці большае, чым любоў да свае бацькаўшчыны, для таго, каб зразумець і вырашыць нашы ўласныя праблемы і яшчэ больш — праблемы ўсяго свету ў цэлым».

Індыйскі здаровы патрыятызм, — гандзісты не саромеліся называць яго нацыяналізмам, — спалучаны з арганічнай патрэбай інтэрнацыяналізму. Гэтая рыса, вядома ж, не прыдумана Джавахарлалам Нэру, аўтарам вышэй прыведзенага выказвання: ён толькі заўважыў такую рысу ў характары свайго народа, агульначалавечы гуманізм якога ідзе сваімі вытокамі з сівой далечыні мінулага.

* * *

Мая першая асабістая бібліятэка займала адну самаробную этажэрку. На «ўсходніх крэсах», у цёмнай вёсцы гэта было вельмі многа. Тым больш, што кнігі былі добрыя і кожная з іх мела сваю гісторыю...

Сярод найцікавейшых кніг на беларускай, рускай, польскай і ўкраінскай мовах адна помніцца мне, і не брыдка прызнацца, малюнкамі. Калі не памыляюся, гэта былі «Вароты ў будучыню» Мікалая Рэрыха, кніга, выдадзеная раскошна, з каляровымі ўклейкамі.

Пасля вайны мне давялося бачыць не толькі паасобныя карціны Рэрыха, але і цэлыя яго выстаўкі, у нашых галерэях і за мяжой. І кожны раз я ўспамінаў, як радасці маленства, тую, цяпер ужо амаль безыменную кнігу, якая адкрыла мне дзіўную песню неба і гор — вечных снягоў і сонца...

Кнігу Рэрыха прыслаў мне Валянцін Булгакаў, апошні сакратар Талстога. Ён жыў тады ў Чэхаславакіі, дзе працаваў дырэктарам рускага культурна-гістарычнага музея...

* * *

Сям'я Рэрыхаў моцна, прыгожа здружылася з «Зямлёй высакародных». У даліне Кулу, акружанай снегавымі вяршынямі Гімалаяў, стаіць помнік з такім вось простым, на мове вечнасці зробленым, надпісам: « 13 снежня 1947 года тут было аддадзена агню цела Мікалая Рэрыха — вялікага рускага друга Індыі. Хай будзе мір». Многа зрабілі для дружбы нашых народаў, для адкрыцця вялікай Індыі свету і жонка Рэрыха, Алена Іванаўна, даследчыца індыйскай філасофіі, і сын Юрый, выдатны лінгвіст і знаўца Усходу. Моцна, можа, і назаўсёды звязаў свой лёс з індыйскім народам і Святаслаў, цяпер ужо адзіны прадаўжальнік сямейнага подзвігу.

Які, аднак жа, уплыў на гэтую душу зрабіла ўсё індыйскае? Так думалася мне тады, калі я любаваўся гэтым чалавекам, так думаецца і цяпер, успамінаючы. Калі і паяднался найлепшае ад двух народаў, дзвюх культур, дый свайго засталося непараўнальна больш...

Жонка Святаслава Мікалаевіча, Дэвіка Рані — індыянка, у мінулым вядомая кінаактрыса, і сёння яшчэ ўсё красуня, цікавая субяседніца і абаяльная гаспадыня...

Мы пачалі, вядома, з Булгакава. І Святаславу Мікалаевічу не хапіла яшчэ адной сустрэчы з нашым агульным другам, і ён быў ударан нечаканасцю яшчэ адной страты, адной з тых вельмі заканамерных нечаканасцей, да якіх мы ніяк не прывыкнем...

* * *

Да самалёта нам заставалася мала больш за гадзіну, лічачы разам з дарогаю ў аэрапорт. Гаспадар — энергічна, спакойна — узяў справу ў свае рукі. Мы, госці, сядзелі на канапе, сёрбалі цудоўны суп, які нам з непераможнай настойлівасцю падлівала мілая гаспадыня, а самі тым часам глядзелі, спалучаючы з раннім абедам сваё захапленне карцінамі. Сам маэстра — прыгожы, сівенькі, лёгкі — сядзеў трохі збоку, у крэсле. Два індыйцы, чорныя ў белым, спраўна і моўчкі, на лёгкі ўзмах гаспадаровай рукі, мянялі вялікія палотнішчы ў моцных падрамніках, адносячы адны, падносячы другія.

Песня неба і гор зноў паўтарылася...

Да гор індыйскай поўначы, у якія быў закаханы бацька, сын дадае чароўнасці поўдня. Запомнілася «Цішыня» — неба і дрэвы, якімі тут любаваліся і ў натуры... Наогул жывапіс Рэрыха-сына, усе яго пейзажы, філасофскія карціны і партрэты, гэта — мастацтва музыкі і думкі, штосьці блізкае Урубелю, Кэнту, Чурлёнісу, Рэрыху-бацьку, аднак — сваё. І ўсё насычана чалавечнасцю, болем за будучыню людзей, усё напамінае тыя словы Нэру — пра шорах стагоддзяў, пра ўменне вяртаць маладосць. Мудрае спалучэнне мінулага з сучасным, з будучым — жыццё ў яго няспынным развіцці.

У Святаслава Рэрыха, таксама як і ў бацькі яго, ёсць карціны «на рэлігійныя тэмы». Марыя і Марыя Магдаліна над знятым з крыжа Ісусам...

Другі «евангельскі сюжэт» — чалавецтва над безданню. Натоўп ідзе да абрыву, за гранню яго канчаецца ўсё, сам ідзе, ірвецца туды, тупа таўчэцца, як у чарзе па нешта незвычайнае. Не заўважае вогненны прывід, які ўстае над той безданню жахлівай, апошняй перасцярогай... І гэта, прабачце, не архангел з «Апакаліпсіса», не папоўскі страшны суд — гэта мудры, сардэчны боль за Зямлю, за чалавецтва з яго страшэннымі прывідамі над безданню — бомбай, якую мы самі прыдумалі, самі і дасканалім... Ёсць толькі боль — адчаю няма.

І ёсць любоў да жыцця, стваральная і паўнацэнная. Яна мне бачылася і ў яркім, радасным палатне «Фарбы Індыі», і ў той жа «Цішыні», і ў філасофска-складанай

Уладзімір САМОЙЛА

## МІКАЛАЙ РЭРЫХ*

(...) Змалку Рэрых праводзіў вакацыі ў бацькавым маёнтку ў Пецярбурскай губэрні і на ўсё жыцьцё палюбіў сумную, але магутную прыроду паўночнай краіны, якая так падобная да нашай беларускай прыроды. Тут мастак на ўсё жыцьцё атрымаў у дар ад маткі-прыроды тую «цягу зямную», тую неразрыўную сувязь з зямлёю, без якое наагул няма мастака, няма наагул запраўднага тварца, дзеяча на зямлі, дый якая так цесна радніць мастака з душою беларускага хлебароба. Гэтая, змалку пакаханая, паўночная прырода і зрабіла з Рэрыха таго мастака *паўночнага краявіду*, які здабыў сабе першае прызнаньне, а неўзабаве і славу ўва ўсім сьвеце.

Далейшы ход разьвіцьця мастака таксама страшэнна цікавы для беларускай сьведамасьці. Малады мастак вучыцца ў Пецярбурскай Акадэміі Мастацтва, запаляецца палкай любоўю да роднай мінуўшчыны, якая была ў расейскім сьвеце наагул у паняверцы. Тэмы *роднай мінуўшчыны* цалкам захопліваюць мастака. Ён робіцца археолёгам, гісторыкам, вывучае летапісы, архівы, разрывае курганы, зарываецца ў нетры роднай зямлі, стараючыся з усяго гэтага матарыялу, гэтых абрыўкаў і абломкаў мінулага, ад веку памёршага жыцьця — ускрасіць яго йзноў, вярнуць да жыцьця, адтварыць яго красу ў сваім мастацтве. (...)

Праз гэтыя абразы, створаныя геніем і любоўю мастака, ускрошаная мінуўшчына рабілася *жывою сілай, якая ўладна ўваходзіла ў сьведамасьць грамадзтва і народу, робячы з іх адзіны, суцэльны, зьвязаны ня толькі ў прасторы, але і ў часе — арганізм нацыі...* Хто-ж з беларусаў ня чуе, як патрэбна такое-ж мастацтва і для нашага народу. Ёсьць, праўда, і ў нас, але-ж толькі зачаткі, яшчэ вельмі слабыя, такога чудатворнага мастацтва, маючага ад Бога і прыроды ўладу і сілы вызваляць ад сьмерці, вяртаць да жыцьця нашую мінуўшчыну, якая — няпраўда, што быццам памёрла: яна толькі сьпіць, дый сьпіць, зусім жывая, як князёўна ў байцы — *у нас самых, у нацыянальнай душы народу, у творстве яго мастакоў, паэтаў, пісьменьнікаў, дый можа прачнуцца ў кожны мамэнт да новага жыцьця, каб ізноў новымі сіламі прошлага тварыць і сучаснасьць і будучыню народу і яго краіны...*

Ня будзем тутака пералічаць гэтых цыкляў абразоў Рэрыха, даўшых яму славу — ня толькі ў Расеі, але і далёка за яе рубяжамі. Адзначым толькі, ізноў для беларускага чытача спэцыяльна, што тое мінулае жыцьцё, якое ўваскрашаў і адтвараў у сваім мастацтве Рэрых, было зусім ня выключна расейскае, не — яно было ў значнай меры *агульна-славянскае*, прынамсі — *усходня-славянскае.* Такім чынам, і ў мінуўшчыне гэтай творства Рэрыха закранала беларускі сьвет.

Трэба цяпер асабліва падчыркнуць тую галоўную рысу, якая адзначала творства Рэрыха ў галіне яго *гістарычнай жывапісі.*

Гэтая асаблівая рыса — *позытыўны, багаслаўляючы, узьвялічваючы характар творчага падыходу мастака да адтворанага ім жыцьця, які імкнецца падчыркнуць і адтварыць абсалютную, нясумніўную самацэннасьць гэтага жыцьця, яго «сьвяшчэнную паважнасьць»*, паводле слоў Гётэ.

Зразумела, што ў гэтым узьвялічэньні, павышэньні жыцьця — наагул задача запраўднага мастацтва, якая радніць яго з *рэлігіяй.* Бо-ж якраз гэтае мэтафізычнае падвышэньне, усіленьне і ўзьвялічэньне ўсіх функцыяў нашай разумнай сьведамасьці, нашай душы — праз збліжэньне яе з надпрыродным зарубежным сьветам — складае асноўную псыхолёгічную ці пэдагогічную задачу рэлігіі, як гэта высьвятліў нямецкі філёзаф Віндэльбанд.

І вось, у Рэрыха гэтае «ўзьвялічэньне» адтваранай ім у мастацтве прыроды, гэтая яго «сьвятарная павага», гэты яго быццам жрэчэскі падыход да сваіх мастацкіх тэмаў — маюць асабліва «рэлігійны» характар. Дзеля таго яго абразы маюць такую запраўды-ж «сьвяточную» вопратку, такі быццам — «богаслужэбны» характар. Лёгка зразумець, якое вялізарнае *ўзгадаваўчае наагул, асабліва-ж нацыянальна-ўзгадаваўчае значэньне мае гэтае творства вялікага славянскага мастака*, дый — як такое мастацтва патрэбна і нам, беларусам... (...)

* * *

Другі мамэнт сутычнасьці Рэрыха з беларускім сьветам, які трэба адзначыць нам тутака, датычыць яго працы ўслаўнай у свой час — ня толькі на ўсю Смаленшчыну, але і на ўсю Эўропу — *школе народнага мастацтва ў Талашкіне.* Што-ж гэта Талашкінская школа? Талашкіна—

кампазіцыі «Мы самі сабе будуем астрогі», і ў глыбокіх партрэтах: бацькі ў акадэмічнай шапачцы; Нэру — упершыню для мяне без белай пілоткі, з залысінамі, яшчэ больш чалавечнага, у задуме; і ў песні песняў — яркім партрэце яшчэ так нядаўна, здаецца, маладой красуні-жонкі...

Поўдзень Індыі даў нам на развітанне добры падарунак — сустрэчу з такім чалавекам і мастаком.

## З ПЕРАПІСКІ...



Святаслаў Рэрых і Янка Брыль. 1967 год.

*Многапаважаны Святаслаў Мікалаевіч!*

Учора я адаслаў Вам бандэроллю два экземпляры нашага рэспубліканскага часопіса «Неман», які выдаецца на рускай мове, а таксама маю кнігу выбраных апавяданняў у перакладзе на рускую мову. У часопісе надрукаваны мае індыйскія дарожныя нататкі. Некалькі старонак прысвечана двум даволі кароткім, але светлым і радасным сустрэчам з Вамі... Прыміце іх, калі ласка, як знак маёй шчырай павагі і сімпатыі.

Перадайце, прашу Вас, маё сардэчнае прывітанне Вашай жонцы. Мне вельмі няёмка перад ёй, што на нашым агульным фотаздымку, надрукаваным у часопісе, я не змог назваць яе імя... Я яго проста не ведаю. Нават і без віны вінаватым быць непрыемна.

Мне будзе вельмі прыемна атрымаць ад Вас некалькі слоў. Я не пісаў Вам так доўга таму, што чакаў, пакуль выйдзе мая новая кніга і часопіс з нарысам. Кнігі так і не дачакаўся — яна ўжо выйшла, пра што было паведамлена, але аўтарскіх я яшчэ не атрымаў. Зусім выпадкова, у адным з палескіх мястэчак, знайшоў на днях сваю кнігу «Под говор костра», якая ўжо разышлася, і з прыемнасцю паслаў яе Вам... З прыемнасцю і... з хваляваннем: хацелася б пачуць Ваша пра яе меркаванне.

Ад душы жадаю Вам і Вашай жонцы ўсяго, усяго найлепшага!

8 жніўня 1968 года.

БРЫЛЬ Іван Антонавіч.

* * *

Бангалор, 23 верасня 1968

*Дарагі містэр Брыль!*

Мы абое былі надзвычай рады, атрымаўшы ад вас кнігу «Под говор костра» і два экземпляры часопіса «Неман», №7, 1968. Мой муж прачытаў мне цудоўны артыкул пра ваша наведанне нас тут, што было вельмі цікава праслухаць і вярнуцца да ўспамінаў пра ваш візіт. Я ўпэўнена, што гэты артыкул павінен быць прачытаны вельмі многімі зацікаўленымі людзьмі, таму што многа людзей у СССР цікавяцца ўсім пра Рэрыхаў. Мой муж сам напіша вам крышку пазней. Мне хочацца проста падзякаваць вам, таму што мой муж і я былі па-сапраўднаму шчаслівыя, атрымаўшы гэтыя прыемныя падарункі ад вас, і калі мы будзем у Кулу, дык памесцім гэтыя кнігі ў нашай бібліятэцы.

З глыбокай пашанай і найлепшымі пажаданнямі і яшчэ раз дзякую

Шчыра ваша

Дэвіка Рані РЭРЫХ.

* * *

*Дарагі Іван Антонавіч!*

Дзякуй Вам вялікі за Ваша пісьмо і дасланыя кнігу ды часопіс. Прабачце, што прамарудзіў з адказам, але я чакаў, пакуль атрымаю пасылку.

З жывой цікавасцю прачытаў я Вашу кнігу, Ваша апісанне паездкі па Індыі. Вашы апавяданні, аповесці ярка і выразна малююць складаныя грані жыцця і выклікаюць захапленне! Жыццё — найвялікшы скарб самага нечаканага. Трэба толькі ўмець прыслухацца і — задумацца.

Я буду рады, вельмі рады азнаёміцца з іншымі Вашымі працамі, апавяданнямі, аповесцямі, калі для гэтага будзе магчымасць.

Дзякуй Вам за добрыя словы ў Вашым апісанні паездкі па Індыі. Мы былі вельмі рады нашай з Вамі сустрэчы, шкада толькі, што часу было так мала.

Будзем спадзявацца, гэта яшчэ калі-небудзь паўторыцца. Яшчэ раз вялікі Вам дзякуй, не забывайце!

З сардэчным прывітаннем

Ваш Святаслаў РЭРЫХ.

20.09.68 г.

* * *

*Дарагі Святаслаў Мікалаевіч!*

Яшчэ толькі віднее. Дзень пачынаю гэтым пісьмом, як малітвай.

Каб засяродзіцца, я перачытаў тое, што пісаў некалі пра першую сустрэчу з Вамі. Мінула сем гадоў. Хутка будзе пятнаццаць пасля маёй апошняй сустрэчы з Валянцінам Фёдаравічам Булгакавым, з успамінаў пра якога пачалася наша з Вамі першая размова. Вось ужо і наведванне маскоўскіх выставак, Мікалая Канстанцінавіча і Вашай, было... у мінулым годзе... Гэта і сумна, гэта і кліча да таго высокага, што дапамагае быць і заставацца чалавекам.

Атрымалася так, што Вашу выстаўку я паглядзеў раней за выстаўку Мікалая Канстанцінавіча. (У Трэцьякоўку мяне, з дачкой і пляменнікам, пусцілі супраць плыні бясконцага цячэння наведнікаў пасля таго, як я пазваніў туды па тэлефоне і дазволіў сабе спаслацца на нашыя з Вамі адносіны. На выстаўку ў Акадэмію мастацтваў мы патрапілі на наступны дзень дзякуючы ласкавасці Іраіды Міхайлаўны*, якая забяспечыла нас прапускамі.)

У Вас дома мы, памятаеце, вельмі спяшаліся з аглядам карцін. А ў Трэцьякоўцы давялося глядзець на іх у вялікай штурхатні. Аднак тое светлае ўражанне, якое я ўпершыню адчуў у Вас дома, паўтарылася. Дзякуй Вам, дарагі Святаслаў Мікалаевіч, і за ўзнёслую радасць жыцця, і за сапраўдную глыбіню думкі! Вы маеце поўнае права сказаць сабе: я рабіў, служыў, выконваў свой абавязак, я ведаю шчасце і творчыя пакуты. Натхнення Вам і далейшых поспехаў!

Паэзія прасторы, бясконцасці і вечнасці, мудрасці стагоддзяў, да якой так радасна, так трывожна набліжацца. Гэта адчуваеш, гэта мне даводзілася і раней не аднойчы адчуваць перад карцінамі Мікалая Канстанцінавіча. Нідзе я не бачыў такіх радасных гор, такога глыбокага зорнага неба... Пасля першай, па-юнацку ўзнёслай сустрэчы з Мікалаем Рэрыхам, з яго творамі толькі на рэпрадукцыях мінула шмат часу і многае пражыта, мне давялося пабачыць нямала выставак, наведаць многія галерэі Еўропы, Азіі і Паўночнай Амерыкі, але песня Рэрыха жыве ва ўсім тым таленавітым і геніяльным шматгалоссі заўсёды сама па сабе, яе ні з кім, ні з чым не зблытаеш, з ёю заўсёды і ўсюды радасна сустракацца.

У залах Акадэміі мне думалася, дарагі Святаслаў Мікалаевіч, і аб тым, як гэта цудоўна — быць сынам такога бацькі, і як няпроста праўдзіцца пры ім і быць вельмі блізкім па духу і, разам з тым, арыгінальным мастаком, якім з'яўляецеся Вы. Зрэшты, Вы гэта ведаеце лепей за мяне. А для мяне, як і для многіх, многіх другіх, уся Ваша цудоўная сям'я — і вельмі руская, і вельмі агульначалавечая — выдатны прыклад высокага, самаахвярнага слугавання справе міру, свабоды, сапраўды чалавечых адносін паміж людзьмі.

Вельмі шкада, што і Ваша выстаўка не пабудзе ў нас... Вельмі шкадую, што ў мяне не атрымалася пабачыцца з Вамі... Але, хто яго ведае, ці змог бы я пры сустрэчы сказаць Вам пра пачуцці і думкі, выкліканыя Вашымі і Вашага вялікага бацькі карцінамі хаця б так, як напісаў гэта цяпер...

Буду рады атрымаць адказ.

Сардэчныя прывітанні пані Дэвіке Рані
і найлепшыя пажаданні Вам абодвум.

10.1.75г.

---

* Жонка Юрыя Мікалаевіча Рэрыха.

Пераклад лістоў з расійскай і ангельскай моваў зроблены рэдакцыяй.

---

маёнтак княгіні Тэнішавай, у якім яна залажыла і ўтрымлівала гэную школу. Школа мела заданьнем, злучыўшы творства народных мастакоў у галіне рознага роду «кустарнай» прамысловасьці, ці народнага вырабніцтва з творствам найлепшых мастакоў расейскага культурнага сьвету, *падняць творчую працу народу ў гэтай галіне на вышэйшы ровень — запраўднага прыкладнога мастацтва.*

Рэрых пламенна запаліўся думкай кн.Тэнішавай і шмат папрацаваў у яе школе, у якой вучыў сялянскіх хлапцоў і дзяўчат, рысаваў і маляваў для іх найлепшыя ўзоры тканін, вышывак, модэлі мэбляў і розных іншых рэчаў дамовага прыбору і ўжытку, укладаючы ў іх мастацкую красу. Гэтая праца добра адказывала яго ўласнай думцы аб тым, што *жыцьцё трэба рабіць харошым — ня толькі ўнутраным зьместам, але і вонкавай формай.* Разам з Рэрыхам у школе Тэнішавай працавалі найвыдатнейшыя мастакі, паміж іншымі і наш віленчук — Бакст, што выводзіцца з тутэйшай купецкай сям'і.

Ажыўляючая гэную дружную сям'ю творчая ідэя — *злучэньне дзеля супольнага творства сялянскай «землянай сілы»* і высокай меставай культуры, каб разам супольнымі сіламі тварыць *нацыянальную красу і сілу* — была вельмі блізкай Рэрыху, які, як сказана вышэй, ніколі не адрываўся ад *зямлі і ад яе найбліжэйшага да зямлі соцыяльнага слою — земляроба...*

* * *

Трэці раз сутыкнуўся Рэрых з беларускім сьветам у 1904 г. у часе свайго грандыёзнага аб'езду ўсіх галоўных архітэктурных цэнтраў тадышняй Расеі. З гэтага аб'езду Рэрых вывез вялізарную масу «архітэктурных нарысаў», зарысовак — пераважна з галіны монумэнтальнага будаўніцтва — царкоўнага і палацовага. Быў ён тады, зразумела, і на беларускай зямлі, і ў беларуска-літоўскіх местах, быў у Вільні, Троках, Горадні, Коўне, Магілеве і інш., адкуль вывез шмат этюдаў. Цяжка пералічыць, колькі «адкрыцьцяў» для расейскага мастацкага сьвету зрабіў тутака Рэрых, падгледзіўшы сваім вострым зрокам і схапіўшы быстрай рукой мастака несьмяротную красу гэтага будаўніцтва на нашых землях. (...)

* * *

На заканчэньне, каб паказаць нашым чытачам, з кім яны тутака мелі дачыненьне, якога маштабу ды размаху — ня толькі мастак, але *чалавек*, стаіць перад імі ў нашым слабым адлюстраваньні, дамо яшчэ кароткі нарыс таго, што зроблена Рэрыхам — пасьля таго, як ён, з болем і сумам пакінуўшы родную Бацькаўшчыну, выехаў на чужыну.

Праз Азію Рэрых едзе ў Амэрыку, якая ўжо поўна была яго славай. У 1921 г. ён закладае ў Нью-Іорку «Міжнародны Мастацкі Цэнтр» — *(Corona Mundi)*, у 1922 г. асновывае там-жа свой знамяніты цяпер «Інстытут Злучаных Мастацтваў» з «Музэям Рэрыха». Наколькі даверу ды энтузыязму выклікае ў Амэрыцы імя Рэрыха, відаць з таго, што, прыкладам, Інстытут і Музэй Рэрыха, які ў 1922 г. мясьціўся ў адным пакоі, *свае дзесятыя ўгодкі сьвяткаваў ужо ў уласным «небаскробе» — у дваццаць дзевяць паверхаў...* У музэі сабраны мастацкія творы *ўсіх народаў сьвету, а ў першую чаргу, зразумела-ж, родных самому закладчыку славянаў.* Інстытут і Музэй Рэрыха ўтрымлівае *Цэнтральнае таварыства імя Рэрыха ў Нью-Іорку, якое мае свае аддзелы,* ці ў запраўднасьці блізу што самастойныя Таварыствы ім. Рэрыха, *раскіданыя па ўсім сьвеце.* 4 гады таму назад гэткія таварыствы існавалі ў 26 дзяржавах Эўропы, Амэрыкі, Азіі, нават Аўстраліі — у лічбе 7 дзесяткоў. Агульная і супольная мэта ўсіх гэтых Таварystваў, зьвязаных з імем Рэрыха, пашыраць яго *аснаўную ідэю — аб рэлігійнай сіле і важнасьці мастацкай красы ў жыцьці чалавека.* Калісьці расейскі мастак мысьлі і слова, Дастаеўскі, сказаў, што *«краса спасе сьвет».* Гэтую думку Рэрых разумее зусім рэальна, як мастак, які якраз рэальна творыць гэтую красу сьвету для нашых вочаў і нашых душаў. Таварыствы Рэрыха маюць мэтай *арганізацыю асяродкаў мастацкай культуры, дый захаваньня ўсіх твораў мастацтва, якія ўспадкаваны сучаснымі народамі ад іх мінуўшчыны.*

Але пачын Рэрыха — у справе аховы памятак культуры і мастацтва на ўсім сьвеце пайшоў яшчэ далей. Па яго думцы адбыліся ў 1931 і 1932 гг. спэцыяльныя міжнародныя канфэрэнцыі — дзеля разгляду і прыняцьця апрацаванага Рэрыхам у супрацоўніцтве з найвыдатнейшымі праўнікамі Эўропы *спэцыяльнага міжнароднага «пакту», ці дагавору, які меў-бы заданьне зрабіць ахову памятак культуры, сусьветна арганізаванай і забясьпечанай у міжнародным парадку.* На гэных канфэрэнцыях прыняты быў аднагалосна гэны «пакт», якому дадзены назоў яго ініцыятара — Рэрыха, а таксама была закладзена *Міжнародная Ліга Культуры.* Абедзьве гэтыя інстытуцыі — і *«пакт Рэрыха», і яго «Ліга Культуры» — зацьверджаны ўжо Лігай Нацыяў, дый — у цэлым радзе дзяржаў сьвету над усімі будынкамі, дзе зьмяшчаюцца творы мастацкай культуры, як музэі, акадэміі, галерэі абразоў, выстаўкі і т.д. — павяваецца ўжо і спэцыяльны «сьцяг міру»,* які ахоўвае іх, так-сама, як у часе вайны ахоўвае шпіталі ды бальніцы з раненымі — сьцяг Чырвонага крыжу...

* * *

Але і на гэтым ня спыніўся яшчэ бязупынны духоўны рост слаўнага славянскага мастака. У 1924 г. Рэрых арганізуе шырокага размаху экспедыцыю ў Азію. Яго грандыёзны аб'езд «сьвятых месцаў» усіх азіяцкіх найстарэйшых рэлігіяў трываў звыш 5 гадоў... Апроч нязьлічанай масы рознага роду калекцыяў для свайго музэю, Рэрых прывёз з гэнай падарожы вялізарную колькасць абразоў, краявідаў, у галіне якіх ён зьяўляецца мастаком над мастакамі. «Сьвятая Азія» — сваей старасьвецкай душой, незразумелым ужо для заходняга эўрапейца духам яе рэлігіі і мастацтва, зрабіла на Рэрыха вялізарнае ўражаньне. Ён ужо ня мог адарвацца ад іх асаблівай красы, і даў яе выражэньне ў сваім новым творстве. Мастацтва творства Рэрыха, як і яго ўся творчая душа, паднялося на рубежную вышыню *рэлігійнага духу.* Мастак стаўся *«тэургам», які ўладна ператварае — з ласкі Божай — у красу акружаючую прыроду, «збаўляючы красой сьвет», а ў ім і чалавечую душу ад усялякага страху і жаху перад цёмнымі сіламі жыцьця.*

Але і на гэтым яшчэ не канец таму, што зрабіў Рэрых. Заехаўшы ў Індыю, ён пабачыў там Гімалаі... Гэта ж ёсьць, як ведама, найвялікшы горны хрыбет на ўсім сьвеце, з найвышэйшымі вяршынамі... Рэрых адразу пачуў, што тут якраз родная яго духу вышыня і ўжо адарвацца ад гэных Гімалаяў ня мог... Тут, у месьце Сіккім зрабіў Рэрых сваю другую пасьля Нью-Іорку сталую сядзібу. Згэтуль большая палавіна яго нявычарпанай энэргіі аддаецца ім на гэтую яго «трэцюю бацькаўшчыну», калі лічыць першай Расею, а другой Амэрыку... Тутака, у даліне Пэнджаба — Кулу, бацькаўшчыне найбольш слаўных духоўных павадыроў Індыі, закладае Рэрых у 1928 г. свой новы знамяніты Гімалайскі Інстытут і Гімалайскі Музэй імя Рэрыха, якія ўжо вырасьлі за апошнія гады ў вялізарныя навукова-дасьледчыя і мастацкія ўстановы, з якімі ня можа раўнавацца аніводная з тых, што створаны англійцамі за часы іх блізу ўжо сталетняга панаваньня ў Індыі.

---

* Артыкул падаецца ў значна скарочаным выглядзе.

Перадрук з часопіса «Калосьсе», 1937 год, 4 кніжка.

Дарога цяжкая ў краіну веры.
Паімкніце розум на радасць творчасці.
Каб паімкнуць дух, трэба выгнаць непатрэбныя думкі
і гатовымі быць прыняць хвалі вібрацый,
якія Мы дасылаем.

май 14

Чыстыя думкі твораць у моцных духам сутнасць
з'яў жыцця.

май 19

Чыстая малітва даходзіць —
У падножжа Хрыста яна зацвітае срэбрам.
Чыстым сінім вагнём палае Слова, што кліча.
І ззяе Чаша Узнясення.
Госпадзе, асушы нашыя слёзы і зірні на полымя нашага
сэрца.
«Я полымем асушу вашыя слёзы і ўзнясу храм
вашага сэрца».
Здыміце адзежы агменю: Уладар прыходзіць,
скарб чашы Ён пераўтварыў, і ссудзіну Ён
вяртае запаленай.
Полымя, умацуйся, двухзначнае, умацуйся,
двуханцовае!
Радасці слёзы — Госпадне віно — ззяюць чыстым вагнём.
Сэрца, узлі віно слёз, але не сасмягні, сэрца мае.



Чым напоўню чашу, Уладыка!

Май 22

Любіце з'явы суладдзя.

май 26

Я знак шчаслівы Гупта даслаў.
Слова Маё — медзь зіхаткая.
Сядай — на чуйнае вуха вусны прамовяць.

май 27

Я — пяску спёка.
Я — полымя сэрца.
Я — хваля паглынаючая.
Я — зямля адроджаная.
Радуйся, напоўніся прасвятленнем.

Маліся Хрысту, здолей знайсці радасць звароту да
Творцы.
Вучыся і адчыні Браму пазнання і ўмацуйся ў
разуменні Задумы Боскай.
Чыстую думку ў Нас вуха ловіць.

май 29

Зведаеце многа, і чыстаю дарогай можаце ісці, але
асцерагайцеся гневу і сумневу.
Калі пераможаце — прасвятліцеся.
Калі падпадзеце — азмрочыць віхор душу вашую.
Паляпшайцеся, сябры, нястомна.
Не пярэчце голасу духа, але замкніце
зямныя галасы.

Спрабуйце — Я з вамі.

Вучыце іншых на з'яўленых справах, але вы не павінны
чужым ставіць учынкі невуцтва за віну.
Цёмных шмат — трэба дараваць.
У іх дух ледзь пазначаны.

Анішто не застрашыць вас, і Брама зазначаная
чакае вас.
Адпрэчвай маладушнасць — Я смелым шчыт.

---

* Пачатак першай кнігі Вучэння Жывой Этыкі «Кліч».




Уладзімір ВАЛОДЗІН

# ТАТАЛЬНАСЦЬ БЫЦЦЯ

*(Роздум над кнігай «Духоўнае брацтва» Ігара Калінаўскаса)*

Здольнасць адчуваць жыццё пачынаецца з пытання пра само жыццё. Менавіта той стан, калі такое пытанне пастаўлена, а адказу на яго — прынамсі ў словах — яшчэ няма, вось гэты прамежак і спараджае пачуццё існавання, адчуванне «аголенага», адкрытага на ўсе бакі жыцця.

Чалавек можа існаваць дзеля нейкай канкрэтнай мэты альбо дзеля незацікаўленага і, аднак, татальнага ўдзелу ў сусветным жыцці. У чым жа адрознасць паміж «мэтавым быццём» і быццём «татальным»? Найпрасцейшым адказам будзе наступны: мэтавае быццё ёсць рухам, тымчасам як татальнае быццё ёсць прысутнасцю. Калі чалавек жыве дзеля пэўнай мэты, ён назірае ўласны рух ад... да... і ўсведамляе сябе як нейкую сусветную лінію — лінію геаметрычную, лінію дасягнення альбо рэалізацыі. Менавіта лінію, траекторыю, якую можна пабачыць няхай азірнуўшыся. Мэтавае быццё вызначаецца накіраванасцю да чагосьці. Быццё ж татальнае вельмі падобнае да хаосу: пры безумоўным адчуванні руху адсутнічае пэўная траекторыя... Татальную прысутнасць таму і цяжка апісаць у словах, што мова прыстасаваная для паказу паслядоўнасці: праз словы куды прасцей апісаць нешта дыскрэтнае...

Татальнае быццё пачынаецца тады, калі вы ўжо «прыйшлі», калі вы ўжо «дома», калі вы ўжо сустрэлі сябе, свет, мяжу і выток адразу. З суб'ектыўнага боку, і знутры, гэта нейкае няспыннае адчуванне прысутнасці, якое мае пачатак, але не мае канца. Гэта жыццё ў перажыванні, унутры яго. Гэта падобна да адчування, што вы ўвайшлі ў падзею і ведаеце, што яна ніколі не скончыцца і што яна пачалася задаўна да вас, да вашага прыходу. Гэтая падзея і ёсць вашым домам.

Магчымасць пабачыць гэта звонку, з аб'ектыўнага боку, залежыць ад начыннай узброенасці назіральніка, ад магчымасці ягоных інструментаў. Як адбываецца апазнаванне? Для апісання гэтага працэсу трэба стварыць адмысловую мову. Напрыклад: «Рух цэлага ў цэлым у пункце каардынатара праз нуль пераходу», — аднак гэта хаця і скажа штосьці розуму, але не сэрцу. Як мне падаецца, менавіта гэта меў на ўвазе Ісус, калі казаў: «Царства Божае — унутры вас». На маю думку, у той час, у той сітуацыі, на той мове адэкватна было паказана, што ўнутры нас існуе такая магчымасць, якая дазваляе нашаму жыццю перайсці на псіхалагічна інакшы ўзровень быцця. Гэтая якасць не ёсць рэччу, набыткам, і не ёсць уміратвораным спакоем, калі не трэба нічога ўвогуле рабіць. Не. Яна дазваляе дакрануцца да іншага кшталту быцця, няспынна ўспрымаць яго разняволенымі пачуццямі. А калі гэта ёсць, тады паўстае сістэма каштоўнасцяў, якая дае магчымасць успрымаць усё, душою ўсё, адчуваць усё — як арганічнае цэлае. Нічога ў табе не ўзнікае абасоблена, як звычайна бывае ў чалавека, абмежаванага самім сабой і сваёй мэтай. Тут няма ніякай абмежаванасці, аднак, трэба сказаць, гэта абцяжарвае зносіны з мэтанакіраванымі людзьмі. Як патлумачыць ім тое, што бачыш? Як апісаць дзікунам дом, у якім жывеш? Вялікі дом. Жывеш там увесь, татальна. Рэальна ўспрымаеш, адчуваеш агромністую колькасць сувязяў — усё тое, праз што свет узаемазнітаваны.

Чалавек здольны адчуць сябе перапляценнем сусветных сіл, ад найслабейшых да наймагутнейшых. Душа не адчувае, не ўспрымае асобна мяне, вас, вонкавы свет. Яна запаўняецца адзіным агульным адчуваннем, пачуццём усеабдымнага існавання. У сваіх глыбінях душа люструе быццё як жыццё ўсяго сусвету, адгукаецца на адчуванні кожнай істоты і нават рэчы. Душа сама ёсць адзіным, адным адчуваннем жыцця без вонкавага і ўнутранага. Што б ні адчуваў, што б ні спасцігаў чалавек, ён адчувае і спасцігае самога сябе ці, лепш сказаць, нас саміх. Тое шматаблічча свету, якое мы бачым вакол сябе — гэта толькі ўмоўнасці, часткі, формы, праявы Адзінага.

Ці існуе штосьці больш пэўнае і блізкае, чым нашае «Я»? Пры заглыбленасці, спробе спасцігнуць і развіць гэтае адчуванне звыклая дваістасць свету, падзел на «Я» — не «Я», «Мы» — не «Мы» паступова або нават раптам (у розных людзей па-рознаму) знікае. Ты бачыш — так, гэта святло, а гэта цемра, але і гэта ўжо непадзельнае. Ты апынешся ў стане, калі дзве рэчы — як адна і ўсё ж застаюцца дзвюма рэчамі. І ўсе размовы пра свядомасць, падсвядомасць, звышсвядомасць — робяцца недарэчнымі.

У суб'екта, што знаходзіцца ў стане татальнага быцця, няма задумы і патрэбы рэалізацыі або не-рэалізацыі патэнцыялу сваёй — сусветнай — душы. Ёсць толькі адчуванне каласальнай складанасці таго, чым ёсць рэчаіснасць, і давер да гэтай рэчаіснасці. І таму матывацыя ягоных паводзінаў будуецца не ад задумы, не ад мэты, што звычайна для нас, але ад уключанасці ў рэчаіснасць, ад спантаннага існавання, ад любові і ўзаемаразумення паміж суб'ектам і рэчаіснасцю. Ён проста ведае, што калі зрабіць тое ці іншае ў свой час — гэта будзе добра. Добра — у сэнсе натуральна, бо сама рэальнасць і будзе гэта рабіць. Ён толькі саўдзельнічае ў жыцці рэчаіснасці. Ён не можа ані кіраваць ёю, ані фармаваць яе інакш чым праз самога сябе. Бо развіццё чалавека — кожнага новага чалавека — па шляху духоўнасці, што палягае ўглыб чалавека, само па сабе ёсць далейшым развіццём сусвету (і па аб'ёме, і па разнастайнасці). Я перастрайваю свет настолькі, наколькі свет перастрайвае мяне. Спасціжэнне адзінства свайго глыбіннага «Я» і ўсёй рэчаіснасці можа шакіраваць непадрыхтаванага чалавека. Паступова, аднак, жах адказнасці за сябе перад усімі рэчамі ды істотамі, а таксама адказнасці за сусвет перад самім сабою ператвараецца ў спакойнае адчуванне паўнаты быцця. Навошта кудысьці імкнуцца, навошта з кімсьці змагацца, калі паўсюдна — ты сам?

Імкненне да свядома абранай ці навязанай мэты ператварае чалавечую істоту з арганізма ў механізм, інструмент дасягнення гэтае мэты. Чалавек губляе сябе як сусвет і робіцца нейкай асобнай ідэяй, рэччу, застылым настроем, ён забываецца на тое, што гэта толькі частка, форма, праява сусветнага існавання — суі-існавання. Чалавек губляе суцэльнае адчуванне непадзельнага, бясконцага жыцця, жыцця па-за формамі, па-за ўсім і, аднак, ва ўсім і ва ўсіх адразу. Супрацьпаставіўшы сябе, дзеля дасягнення сваёй мэты, астатняму сусвету, чалавек апынаецца часткай без цэлага, няздатнай да развіцця і якога-кольвек рэальнага дзеяння.

На ўзроўні чыстай духоўнай рэальнасці лічыцца рэальным толькі тое дзеянне, якое здзяйсняецца самой рэальнасцю, г.зн. — адносіны паміж духам і існаваннем, недатычным духу, будуюцца не на законе асабістай волі, а на законе ўзаемадзеяння ў межах, вызначаемых рэальнасцю. Калі мы дапусцім, што можна выдзеліць пэўную псіхалагічную метаструктуру і пазначыць яе як дух, дык пабачым, што гэтая метаструктура не ў стане рабіць што-небудзь, бо не мае ў сабе матывацыйнай сістэмы. Матывацыю мае душа, мае цела — дух не мае яе. Ён проста «ёсць». У гэтым ягоная прынцыповая адрознасць: ён не мае стану «жадаю». Дух, па сутнасці, не можа нічога жадаць для сябе. Ягонае «жаданне» ў тым, што ён «ёсць». Калі ўявіць дух у якасці нейкай сілы, нейкай рэальнай магчымасці, мы сутыкаемся з пытаннем, што ён робіць як нешта адзінае? Гэта найбольш складанае пытанне. Дух нібыта і можа дзейнічаць, толькі незразумела — навошта? Навошта яму дзейнічаць, калі ён не мае ніякіх «жадаю»? Калі дапусціць, што ён бяздзейнічае — дык ці можна тады лічыць дзеяннем адухатварэнне? Па гэтым пытанні ў сусветнай культуры, у рэлігійнай, акультнай, містычнай, міфалагічнай традыцыях няма адзінства.

Але існуе пункт гледжання, які падаецца мне ўнутрана несупярэчлівым. У адрознасць ад душы альбо цела дух валодае здольнасцю растварацца ў рэальнасці без растварэння — дзякуючы наступнаму прынцыпу гэтага ўзроўню быцця: дзве рэчы тут — адна рэч, і ў той жа час застаюцца дзвюма рэчамі, г.зн. «Я» і «не — Я» нібыта адно, паколькі першае і другое не мае акрэсленасці, і ў той жа час гэта ўсё-ткі «Я» і «не-Я». Дух, калі ён захоўвае сувязь хай толькі з душой, нібыта ўцягваецца ў адзін з варыянтаў будучага развіцця рэальнасці, утвараючы тое, што ў літаратуры звычайна завецца Плынню (дао). Тое, што называюць духоўнай рэальнасцю, Богам, сутнасцю, абсалютам — не ёсць чымсьці аднародным. Адзінае не ёсць агульным, суцэльным і безаблічным; адзінае — гэта не апатыя і абыякавасць, гэта не ўсё роўна — гэта ўсё роўнае.

У адным з аўтабіяграфічных твораў Ё.В.Гётэ апісваў свой псіхалагічны досвед так: «Я імкнуўся з любоўю глядзець на тое, што адбываецца звонку і падвергнуць сябе ўздзеянню ўсіх істот, кожнай на яе ўласны лад, пачынаючы з чалавечай істоты і далей — па сыходзячай лініі — да той ступені, да якой яны былі для мяне спасцігальны. Адсюль паўстала цудоўная роднасць з асобнымі з'явамі прыроды, унутраная сугучнасць з ёю, удзел у хоры ўсеабдымнага цэлага...»

Канешне, быць назіральнікам, быць самім сабой, памятаць пра сваё адзінства са светам, быць сапраўдным — усё гэта да нейкай ступені таксама мае характар назапашвання, праграмы, мэтанакіраванага існавання.

Толькі сапраўднае, татальнае быццё не залежыць ні ад памяці, ні ад разумення — яно проста ёсць! Ёсць рэальнасць...

Трэба не памятаць пра сябе, а быць сабою.

ЗНО

Дыскурс

Віталь ЗАЙКА

# КАМЕНТАР ЯК ЛАД ЖЫЦЬЦЯ



Адзін з найбольш міталягізаваных і здэманізаваных этнасаў сьвету завітаў каля 600 год таму на Беларусь. Старыя акты адлюстроўваюць прыязнае стаўленьне ўладароў беларускіх земляў да прыбышоў, інтэграцыю прыбышоў у Старабеларускай дзяржаве, калі яны занялі вакантную гандлёва-рамесьніцка-ліхвярскую нішу. Перасяленцы прынесьлі з сабою эканамічную прадпрымальнасьць, рамесьніцкія навыкі, крэдытныя адносіны, невядомыя дагэтуль, і чорную славу апанентаў хрысьціянства, махляроў і рытуальных забойцаў. Слава гэтая, сьцішаная да паўшэпту, пратрывала да нашых дзён. Веда, якая ёсьць апосталам братэрства, яшчэ стаіць не пакліканая каля нашых дзьвярэй. Адна зь вялікіх цывілізацыяў, якая ўжо больш тых 600 год суіснавала і ўсё яшчэ суіснуе з намі на нашай зямлі, застаецца для нас нябачнай ці схаванай.

Хто ж такія яўрэі? Пытаньне ня простае для саміх яўрэяў. Можа гэтаксама, як і для нас — хто беларусы? Той, хто мае запіс у пашпарце або гаворыць на пэўнай мове, або ўваходзіць у пэўную канфесію, або лічыць сябе прадстаўніком пэўнай нацыі? Дыскусія «хто яўрэй» цягнецца ўжо шмат гадоў.

Самое слова «яўрэй» у ягоным нацыянальным сэнсе не мае гэбрайскага адпаведніка і было ўведзена, як раўнабежнае паняцьцю «хрысьціянін» праз самых хрысьціянаў. Безумоўна, паняцьце «Юдаізм» уключае ў значнай ступені пытаньні веры, але разам з тым закранае рэчы, не тоесныя ёй.

Адсутнасьць выразнай дыхатоміі «сакральнае-прафаннае» надае Юдаізму, у адрозьненьне ад хрысьціянства, асабліва ў ягоным сучасным, па-сярэднявечным і пасьветным стане, рысы хутчэй ладу жыцьця, чым рэлігіі. Націск робіцца не на вераваньнях, але на правільных паводзінах, штодзённай практыцы. Так, у дэкляраццыі амэрыканскіх рэформавых рабінаў, што была прынята ў 1976 годзе, гаворыцца: «Юдаізм падкрэсьлівае дзеяньне, хутчэй чым веру, як першаснае праяўленьне рэлігійнага жыцьця, тыя сродкі, якімі мы спрабуем дасягнуць сусьветнай справядлівасьці і міру». Акрамя гэтага, Юдаізм ўключае ў сябе мноства плыняў — ад ліберальнай да артадаксальнай, а нават і «сэкулярны Юдаізм» — сучасную зьяву, калі яўрэі ідэнтыфікуюць сябе з Юдаізмам, але адмаўляюць ягонае рэлігійнае вымярэньне.

З другога боку, яўрэі, як фокус яўрэйскай цывілізацыі, не ёсьць раса. Яны не маюць цэнтральнай рэлігійнай альбо палітычнай улады, не жывуць у адной краіне. Агульным чыньнікам, які лучыць усіх, хто адносіць сябе да яўрэйства, зьяўляецца прызнаньне агульнай гістарычнай спадчыны, дасягненьняў і выпрабаваньняў, і — *тэкст*, агульны тэкст, які мае пэўную колькасць узроўняў з мноствам значэньняў, што знаходзяцца ў працэсе эвалюцыі пры каментаваньні гэтага тэксту. Менавіта чытаньне і вывучэньне яўрэйскай Бібліі сталася інтэгруючым чыньнікам, культурнай падвалінай усяго расьцярушанага па сьвеце яўрэйства.

Разам з тым ёсьць пэўная цяжкасьць у вызначэньні яўрэйскай культуры простым чытаньнем тэксту самога па сабе, у ізаляцыі. Увесь дух, уся сутнасьць яўрэйскай культуры, яўрэйскай цывілізацыі палягаюць у інтэрпрэтацыі гэтага тэксту, а таксама ў інтэрпрэтацыі інтэрпрэтацыі.

Пачатак гэтай інтэрпрэтацыі сягае ў часы Другога храму і ўзьнікненьня рабіністычнага Юдаізму, і нават раней, у перыяд Бабілёнскага выгнаньня. Поўнае разбурэньне папярэдняга ладу жыцьця і Храму з ягонай Сьвятыняй Сьвятых зрабіла выклік яўрэйскай цывілізацыі, паставіла на грань зьнікненьня. Адказам было закадаванае ў тэкст трансфармаваньне яўрэйскага універсуму. Яўрэйскай геаграфіяй і тапаграфіяй стала тэкстуальнасьць, яўрэйскім культам стаў аповяд, яўрэйскай рэальнасьцю стала літаратура. Сам Храм цэлы быў адноўлены ў Пісаньнях. Гэтая яўрэйская культура стала транспартабельнай. І далей яўрэі насілі за плячыма скручаныя ў пергаменты і вэлюмы свой Храм і свае палацы, звычаі і сьпевы, думкі і памкненьні.

З-за таго што веды ў старажытныя часы перадаваліся не пісаным тэкстам, але ў вусным кантэксьце, колькасьць пісьмовых помнікаў ва ўжытку была невялікай. Кніга сама па сабе лічылася сіратой, пушчанай у сьвет, таму што без вуснага каментара, без даданьня кантэксту чытач мог успрыняць зусім не тое значэньне, якое меў на ўвазе пішучы. Перадача вучэньня звычайна адбывалася ў вуснай, жывой форме, непасрэдна ад настаўніка да вучня. Падобным было стаўленьне і да яўрэйскай Бібліі, якая, безумоўна, лічылася сьвятой, але без дапамогі вуснай традыцыі, каментара, Мідраша чытач ня мог выцягваць зь яе праўдзівыя сэнсы. Пры перадачы ж вуснай традыцыі настаўнік мог сказаць: мой настаўнік вучыўся з настаўнікам, які вучыўся з настаўнікам і г.д..., якога настаўнікам быў сам Майсей.

Такім чынам, асноўнай перадумовай каментаваньня зьяўляецца прыняцьце дакт-



Рафаэль ЛЁВЭ

# ЯЎРЭЙСКАЯ ЭКЗЭГЕЗА

Два паважныя моманты неабходна зразумець, калі ацэньваецца пасьлябіблійнае зьвяртаньне да Гэбрайскай Бібліі — адзін момант праграмны, другі — гістарычны. 1) Аксіёма, што Пентатойх (Пяцікніг) уключае найвышэйшы і найбольш даступны прыклад Божага адкрыцьця (рэвеляцыі) — падпарадкоўвае і пераламляе экзэгезу астатніх кніг Бібліі ў спосаб, які пераўзыходзіць меркаваньні храналёгіі. 2) Канцэпт дадатковай «Вуснай» Торы, распрацаваны ў рабіністычным Юдаізме і ў некаторых не-рабіністычных рухах, азначае, што накапляльная інтэрпрэтацыйная традыцыя часамі выяўляе супярэчнасьці. Але — прынамсі, калі закранаюцца практычныя рэчы — яна прыводзіць да агульнапрынятага пагадненьня. Зьнешнім хаўрусьнікам гэтага падыходу ёсьць гісторыя рэдагаваных кампіляцыяў экзэгетычнага матар'ялу ў дасярэднявечны час. Вусна зьберажоны матар'ял звычайна пакідаўся несабраным ці некадыфікаваным, пакуль нейкі зьнешні фактар (страта нацыянальнай незалежнасьці, сэктанцкая пагроза) не робіць зьвядзеньне ў адзін канон і кадыфікацыю пажаданымі ці нават неабходнымі. Таму розныя корпусы могуць уключаць матар'ял значна ранейшы, чым дата рэдагаваньня, і старажытнасьць іх атэстуецца са зьнешніх крыніц, да прыкладу з Новага Тэстаменту ці Язэпа Флавіюса.

У рабіністычным Юдаізме дзьве асноўныя катэгорыі скрозь праз усю Тору (хутчэй «вучэньне», чым «закон») падзяляюцца ў агульным, абсалютным сэнсе, нават калі яны не артыкуляваныя ў найбольш раньніх матар'ялах, а ў выпадку нерабіністычных плыняў (Кумран) увогуле непрымяняльныя. Абедзьве катэгорыі могуць перакрывацца з узаемным стымуляваньнем духовай адчувальнасьці, і дзякуючы плёнасьці паняцьця і Вуснай Торы тое, што сучасны дасьледчык назваў бы хутчэй эйзэгезай, чым экзэгезай, не адчуваецца нечым штучна ўведзеным у значэньне тэксту. Катэгорыі гэтыя — агада і галаха. Агада («апавяшчэньне», «апавяданьне») зьвязана з унясеньнем богасьвядомасьці ў разумовыя стаўленьні. І хоць яна можа абумоўліваць падыходы да закону ды інстытуцыянальнай практыкі, яна ёсьць самаісная. Будучы ў асноўным сабранай у разнастайных калекцыях Мідрашу ("экспазіцыі","выстаўленьня"), агада прымае форму маралізатарскай экзэгезы, часам праз творчае перапрацаваньне аповяду, часам праз парабалу ці анекдот. Галоўныя тэалягічныя тэмы і праблемы ў агадзе разглядаюцца праз антрапаморфныя байкі, напрыклад Бог, смуткуючы з чалавечага граху перад насланьнем залевы (Зараджэньне, 6:6), тыдзень спраўляў жалобныя рытуалы. Зьмяшчаючы глыбокія спасьціжэньні ў простую, невычваральную форму, агада зьяўляе сабою крыніцу, зь якой выходзіць многае ў тэалёгіі рабіністычнага Юдаізму. Перакананасьць у тым, што Пісаньне не зьмяшчае ў сабе нічога нязначнага і павярхоўнага, прыводзіць да выкарыстаньня паралелізму ці літаральнага стаўленьня да метафар, дзеля напаўненьня лапідарнага біблійнага аповяду абставовымі дэталямі.

Галаха («працэдура», «дзеяньне») зьвязана з унясеньнем богасьвядомасьці ў ажыцьцяўленьне практычных рэчаў, інстытуцыянальных або штодзённых спраў, гэтак як і самадысцыпліны ў адносінах да забароненага. Дзеля таго, што Божае прыказаньне (міцва) лічыцца найвышэйшай праявай раскрыцьця (рэвеляцыі), галахічная экзэгеза загадаў Пісаньня як рытуальная (шабат, дзесяціна), так і цывільная (закон уласнасьці, шлюбы і г.д.) звычайна лічыцца першаснай, тады як агадычныя матар'ялы — другаснай зьявай у дачыненьні да сутнасьці Юдаізму. Функцыяй галахічнай экзэгезы ёсьць такое абыходжаньне з біблійнымі ўстанаўленьнямі, — асабліва з тымі, чые зьмененыя абставіны могуць параджаць праблемы, — каб выніковыя пастановы былі сацыяльна выканальныя для яўрэяў у дадзенай сытуацыі, этычна трывалыя і абгрунтаваныя лагічна (ці з прымальнымі адхіленьнямі ад логікі) на дадзеным узроўні прыярытэтаў. Рэалістычныя меркаваньні адносна легітымнага кіраваньня прывялі да эвалюцыі раўнабежнага, тэматычна падзеленага корпусу гэтага матар'ялу, кульмінуючыся ў Мішне("паўтарэньні", г.зн. навучаньні, каля 200 г.н.э.). Гэта ў сваю чаргу пацягнула стварэньне свайго уласнага экзэгетычнага трактаваньня ў двух рэцэнсіях (варыянтах) — Палестынскім і Бабілёнскім, Гемары ("завяршэньня"), якая разам з Мішнай складае Талмуд у спосаб, падобны на гласацыю Рымскага права.

*Перыяд Другога храму. Садуцэі.* У Мішне і Талмудзе зафіксаваныя спрэчкі паміж Садуцэямі і Фарысэямі, чыё падзяленьне па рысах палітычнага адасабленьня адлюстравана ў Эвангельлях. Садуцэі, маючы статычны погляд на ўдухавеньне Пяцікнігу і лічачы «традыцыі старых» не маючымі боскае санкцыі, выконвалі біблійны закон літаральна. Кожнае дадатковае заканадаўства, якое магло быць неабходным, лічылася часта сэкулярным і ўводзілася без спасылак на нейкія чыньнікі, што знаходзяцца ў Торы. Фарысэі, сьведамыя дынамічнага падыходу як адзінага, які можа зьберагчы Боскі раскрыты закон, заклалі падваліны, на якіх разьвіўся рабіністычны Юдаізм. Найбольш вядомым пунктам сутыкненьня двух падыходаў зьяўляецца закон адплаты (Вх 12:24), які, згодна з Садуцэямі, мусіў выконвацца літаральна, тады як Фарысэі лічылі, што «вока за вока» азначае не фізычную адплату, але кампенсацыю. І хоць экзэгетычны аргумент тут ня быў прамоўлены, але яскрава прысутнічае інтэрпрэтацыя.

*Кумран.* Хоць кумранічная экзэгеза мусіць быць разгледжана асобна, тым ня менш мае сэнс адзначыць, чым яна адрозьніваецца ад галоўнай плыні Юдаізму. Аўтары скруткаў, якіх звычайна лічаць паходзячымі з сэкты Эсэнаў, як і Садуцэі, былі прыхільнікамі літаральнасьці, але на іх мысьленьне ўплывалі два моманты: іхняе самаўсьведамленьне сваёй ізаляванасьці ў варожым атачэньні як рэшты, прадстаўляючай сапраўдны Юдаізм, і ўспрыняцьце эсхаталагічнай непасрэднасьці. Рэшты літаратурных помнікаў сэкты ўключаюць у значнай колькасьці пешэр ("інтэрпрэтацыю") многіх кніг Старога Тэстаменту, каментары, у якіх гістарычныя спасылкі на ворагаў Ізраіля ідэнтыфікуюцца з апанентамі — сучасьнікамі сэкты, тады як пакутуючыя справядліўцы экзэгетычна пераасэнсоўваюцца, прымаючы воблік іхных уласных герояў. Хоць Кумранская літаратура таксама ўключае тэксты, якія дэталізуюць інстытуцыйную працэдуру, важна адзначыць, што зьмяшчаючы ў сабе біблійныя алюзіі, яны не выводзяць свае правіла экзэгетычна з Пісаньня.

*Раньняе Хрысьціянства.* Хоць герменеўтыка раньняй царквы ляжыць па-за рамкамі дадзенага артыкула, варта ўсе ж адзначыць наступнае. Уся атмасфера Эвангельляў прасякнута знаёмасьцю з інстытуцыямі Юдаізму Фарысэяў, але вучэньне Ісуса было ягонымі сучасьнікамі прызнана, як даволі адрознае ад раньніх рабіністычных школаў як у стылі, так і ў мэтах. Нават калі магчыма знайсьці ў прамовах Ісуса некаторыя элементы рабіністычнай дыялектыкі, экзэгетычнае зьвяртаньне да Старога Тэстаменту ў Новым Тэстаменце зусім не нагадвае рабіністычнай экзэгетыкі. У выпадку пісаньняў Сьв.Паўла Машыях (Месія) атаясамліваецца з Торай, так што *міцва*, «прыказаньне» — асноўны канал рэвеляцыі ў Юдаізме — адыходзіць

рыны аб тым, што на Сінаі Майсей атрымаў Тору (вучэньне, закон) у дзьвюх розных формах — Пісанай і Вуснай Торы. Першая зьмешчана ў Пісаньні, другая — у інтэрпрэтацыйнай традыцыі.

У перыяд Другога храму (IVст. да н.э. — Iст. н.э.), калі іншыя шляхі атрыманьня Божага адкрыцьця (Божай волі), гэткія, як непасрэдная рэвеляцыя і прароцтва адышлі ў нябыт, Бог перастаў выказваць і сваю волю праз голас пракрокаў, тады праз зьбіраньне і кананізацыю прарочых пісаньняў пісцы (прафесійныя адміністратары, чынавенства) сталі заяўляць аб сваіх правах на аўтарытэт у рэлігійных справах. Яны зрабілі сябе майстрамі гэтай сакральнай літаратуры, а іх экспертыза стала падвалінай іхняга аўтарытэту, які ў прынцыпе зрабіўся абсалютным. Дзеля таго што ў Пісаньнях захоўвалася інфармацыя і пра рытуальныя дзеяньні ў Храме, і пра кіраваньне дзяржавай, то пісцы праз правядзеньне праваой экспертызы маглі прэтэндаваць на главенства і перад святарамі, і перад царамі. Сабраўшы фіксаваны корпус сакральнай літаратуры, пісцы, якія пазней сталі называцца равамі, раббанамі ці рабінамі («настаўнікі», «майстры») пачалі, дзеля пошуку адказаў на пытаньні, якія ставіла жыцьцё і зьмена абставін, увесь час ператалумачваць сэнс Пісаньня, не зьмяняючы ў ім ніводнай літары, і так прыстасоўваючы традыцыю да патрэбаў дадзенага пакаленьня.

Катэгарызуючы свае традыцыі як Вусную Тору, рабіны прэтэндавалі недвухсэнсоўна на Боскае ўпаўнаважаньне іхняга прачытаньня Пісаньняў. Яны ўлічвалі існаваньне іншых груп — хрысьціянаў, якія таксама ўважалі Гэбрайскую Біблію Божым словам, але тлумачылі яе значэньне зусім іншым чынам. Рабіны стаялі на тым, што прынцыпы інтэрпрэтацыі і дамінуючыя ідэі можна прасачыць да часоў Майсея, а традыцыя навучаньня непарыўна цягнецца ад Майсея.

Новыя ідэі і працэсы ў Юдаізме мусілі быць легітымаваныя праз усталяваньне іх сувязі з Пісаньнем, праз доказ іхняй прысутнасьці ў тым ці іншым месцы Пісаньня. Хоць Пісаная Тора, як непарушная недатыкальная Сьвятыня, была нязменнай, канцэпт Вуснай Торы як незамкнёнай сістэмы дазваляў праводзіць падобныя легітымацыі. Вусная Тора — адкрытая, невызначаная, увесь час у разьвіцьці. Яна ёсьць пасрэднік паміж Торай-Пісаньнем і жыцьцём.

Тым самым пасрэднікам паміж Пісаньнем і жыцьцём рабіўся каментар, званы Мідраш. Мэтай Мідраша ёсьць тлумачэньне незразумелых месцаў, цяжкасьцяў і ўяўных памылак біблейнага тэксту, зьнішчэньне ўяўных супярэчнасьцяў, выдзяленьне глыбокіх сэнсаў, прыстасаваньне Пісаньня да сьвядомасьці яўрэя, і — найбольш істотна — зацьверджаньне традыцыі ў рамках Пісаньня. Са знешняга пункту погляду задачай інтэрпрэтатара ёсьць як экзэгеза, так і эйзэгеза, як выдзяленьне з Пісаньня закладзеных сэнсаў, так і ўвядзеньне іх у Пісаньне. Каментатары — *даршаны*, аднак, былі ўпэўненыя, што імі ўведзеныя ў Пісаньне сэнсы заўсёды знаходзіліся там у латэнтным стане; пры гэтым яны ў асноўным выкарыстоўвалі тэксталагічна праблемныя часткі Пісаньня.

Інтэрпрэтацыя Пісаньня разам з тым не адвольная дзейнасьць, а вельмі рэгламентаваная і структурызаваная. Асноўнымі пастулатамі гэтай дзейнасьці зьяўляюцца: бясхібнасьць і беспамылковасьць Пісаньня; усе памылкі — уяўныя, вынік недасканаласьці чалавечага розуму ў параўнаньні з Боскім наканаваньнем. Пісаньне таксама кагерэнтнае — узгодненае і паслядоўнае, супярэчнасьці — уяўныя і выкараняюцца праз інтэрпрэтацыю. Пісаньне полівалентнае, мае мноства сэнсаў. І калі ў сучасным літаратуразнаўстве адсутнасьць «аб'ектыўнага» сэнсу і яго шматзначнасьць ёсьць вынік шматлікасьці чытачоў, то для рабінаў полівалентнасьць тэксту ёсьць вынік невычарпальнасьці Божага розуму і ягоных сэнсаў.



Інтэрпрэтатары распрацавалі пэўныя прынцыпы экзэгезы Пісаньня, сярод якіх: «Тора гаворыць чалавечай мовай», «Ніводзін радок Пісаньня ня можа страціць свой просты (непасрэдны) сэнс», «У Торы не існуе паняцьцяў «раней» і «пазней». Спробы стварэньня экзэгетычнай тэхнікі далі ў выніку тры сьпісы герменеўтычных нормаў (мідот): Сем мідот Гіleля, Трынаццаць — Р.Ішмаэля, Трыццаць дзьве — Р.Эльезэра Бэн-Ёсэ. Сьпіс Гіleля адбівае іх найбольш агульны характар: 1) «Лёгкае і цяжкое» — выснова ад больш простага да больш складанага, 2) «роўнае сячэньне» — выснова, што базуецца на прысутнасьці агульнага элементу ў двух розных фрагментах тэксту, 3) збудаваньне катэгорыі на падставе аднаго і двух тэкстаў, 4) калі за агульным элементам ідзе канкрэтны, то агульны ўключае ў сябе толькі тое, што зьмешчана ў канкрэтным, 5) калі за канкрэтным элементам ідзе агульны, то ўсё, зьмешчанае ў агульным элеменьце, дадаецца да канкрэтнага, 6) ужываньне падобнай інтэрпрэтацыі для іншага месца, 7) інтэрпрэтацыя выводзіцца з кантэксту.

Калі ў XII стагодзьдзі Мідраш як інтэрпрэтацыйны жанр спыніў сваё існаваньне, зьявіўся новы падыход да біблійнай інтэрпрэтацыі. Саадыя-гаон, перакладчык Бібліі па-арабску, прыняў больш лінгвістычны і навуковы падыход у адрозненьне ад у асноўным гамілетычнага падыходу Мідраша. Працы Саадыі заклалі падваліны традыцыйнага біблійнага каментара, які зрабіў пэўны ўплыў на каталіцкую хрысьціянскую навуку.

Адзін з найлепш вядомых сярэднявечных каментатараў — Рашы, у некаторых момантах арыентуецца на Мідраш, але ягоны метад каментаваньня кожнага радка Пісаньня і канцэнтрацыя на вытлумачэньні цяжкасьцяў мае мала агульнага з мідрашоўскім увядзеньнем у тэкст зьнешніх ідэяў. Каментары Ібн-Эзры, меньш папулярныя і больш складаныя за каментары Рашы, часам далёка адыходзяць ад традыцыйных поглядаў на характар Бібліі. Ібн-Эзра скептычна ставіўся да Майсея як аўтара Торы і лічыў, напрыклад, кнігу Ісаі працай больш чым аднаго аўтара.

Працы Майсея Майманіда, гэткія, як «Настаўнік блукаючых», дасягненьне яўрэйскай сярэднявечнай філязофіі, могуць лічыцца кшталтам філязофскага каментара на найбольш складаныя месцы Бібліі.

Пераканаы рацыяналіст Майсей Мендэльсон вывеў фундаментальнае адрозьненьне Юдаізму ад Хрысьціянства: «Я не прызнаю вечных ісьцін, акрамя тых, якія могуць ня толькі быць зразумелыя чалавечым розумам, але таксама і праяўленыя і падтрыманыя магчымасьцямі чалавека. Я веру, што Юдаізм не прымае нічога з рэлігіі рэвеляцыі ў тым сэнсе, як гэта разумеюць хрысьціяне. У ізраэлітаў ёсьць Божае заканадаўства: прыказаньні, законы, правілы паводзін, настаўленьні адносна Божай волі і тое, што неабходна, каб дасягнуць часовага і вечнага шчасьця».

Праз усю гісторыю кожнае пакаленьне чытала Біблію і рэагавала на яе ў сьвятле ўласных ведаў і ўласных патрэбаў. Біблія тут значыць ня проста пэўны напісаны тэкст, але тэкст такі, якім яго зразумелі і вытлумачылі папярэднія пакаленьні. Кожны новы водгук, новая інтэрпрэтацыя патэнцыяльна могуць зрабіцца часткай традыцыі. Зразуметая ў гэткім сэнсе, Біблія ёсьць жывая традыцыя, у якой законнае месца займае зараз сучасная каментатарская дзейнасьць. Такое бачаньне было прапанавана ў 1920-я гады Францам Розэнцвайгам, які разам з Марцінам Буберам пераклаў яўрэйскую Біблію на нямецкую мову. Біблія — гэта праца людзей. Запісаная людзьмі, рэдагаваная людзьмі, інтэрпрэтуемая людзьмі. Кожнае слова Торы можа быць інтэрпрэтавана неабмежаванай колькасьцю шляхоў. Але ўсе розныя інтэрпрэтацыі самыя зьяўляюцца часткай Торы, а адзінства Торы выводзіцца з адзінства традыцыі. Згодна са словамі старажытнага думаньніка, «гэныя і гэтыя — усё словы жывога Бога».



на другі план і замяняецца праз *мімесіс*, «імітацыю» (Хрыстоса), і *«парэнесіс»* ("пераконваньне"). Калі выказваецца сьцьвярджэньне, што прароцтвы Старога Тэстаменту цалкам спраўдзіліся ў Ісусе, экзэгеза Гэбрайскай Бібліі губляе сваю істотнасьць: сам тэкст, незалежны ад інтэрпрэтацыяў, становіцца ў тыпалагічную ўзаемасувязь з тэкстам Эвангельляў.

*Танайскі перыяд.* Эпоха «Настаўнікаў» (тана'э па-арамейску), чые галахічныя вышукі былі інкарпараваныя ў тэматычна складзеную Мішну, пачынаецца з Гіleля, старэйшага сучасніка Ісуса. У зарэгістраваных супярэчнасьцях паміж Шамаем і Гілелем, і ў іх адпаведных школах думкі, напружанасьць паміж літаральнай і творчай інтэрпрэтацыяй, якая характарызавала апазіцыю Садуцэі-Фарысэі, знайшла свой працяг. Схема галахічнай герменеўтыкі, маючы пэўную (невялікую) ступень грэцкага ўплыву, прадстаўляе зусім іншы сусьвет дыскурсу. Арыстоцеляў арганон быў створаны спрыяць адпаведна дысцыплінаванаму мысленьню, і праз яго — інтэлектуальнаму ўзбагачэньню. Рабіністычныя правілы герменеўтыкі ствараліся дзеля забесьпячэньня прасторы для інтэрпрэтацыі тэкстаў Пяцікнігу, якія ўключаюць практычныя інстытуцыі альбо забароненыя рэчы, і ў той самы час гэта дае магчымасьць ажыцьцяўляць кансерватыўны кантроль над інавацыямі. Аксіёма аб літаральным боганатхненьні тэксту ўзняла два зкзэгетычныя погляды. Першы, асацыяваны з Рабі Аківам, сьцьвярджаў, што кожная дробязь важная, і нават неперакладальныя службовыя словы выкарыстоўваліся для пашырэньня сэнсу словаў, да якіх яны адносіліся. Іншы погляд, асацыяваны з Аківавым сучасьнікам Ішмаэлем, супрацiўляўся такім празмерным высновам, заяўляючы: «Тора гаворыць па-чалавечы».

*Амарайскі перыяд.* Два-тры стагодзьдзі пасля кадыфікацыі Мішны складаюць перыяд «Апавядальнікаў» (амараэ — «казальнікі» па-арамейску) (200 — 550 гг.), падчас якога вывучаўся і аналізаваўся тэкст Мішны, і на яго пісаўся каментар у акадэміях Палестыны і Бабілёніі. Вынікам сталі два варыянты Талмуду, якія на працягу Сярэднявечча і пасля яго былі аб'ектам дэталёвага экзэгетычнага разгляду. Амарайскі перыяд пабачыў пачатак складаньня не-галахічнай экзэгезы Мідрашу. У гэты перыяд праз Гераніма, знаёмага з Мідрашам па вусных яўрэйскіх крыніцах, некаторы розгалас агады дасягае пэўных заходніх Айцоў царквы. У гэты перыяд таксама арамейскія пераклады Бібліі для яўрэяў (таргумы) прынялі канчатковую форму. Усе таргумы ўключаюць экзэгетычныя дабаўленьні. Песьня Песьням у таргумах трактуецца як поўная алегорыя, дзе кожны радок «дэшыфруецца» як любоў Бога да Ізраіля, Ізраілеў грэх, пакаяньне і наканаваная гісторыя.

*Караізм.* Прасоўваньне ісламу паставіла ў VIII ст. некаторыя яўрэйскія грамады пад уплывы тэалёгіі ісламу, які пачаў рацыяналізавацца. Таму магчыма, што ўзнікненьне Шыізму сярод арабаў і адмаўленьне Суны-традыцыі паўплывала на ўзьнікненьне сярод яўрэяў Караізму (гэбр. Кара'ім — прыхільнікі Пісаньня) як руху, які адмаўляў аўтарытэт Вуснай Торы. Анан б.Давід, заснавальнік Караізму, асноўным экзэгетычным прынцыпам падаў наступнае: «шукай старанна ў Торы і не спадзявайся на мяне». Разам з тым у сваіх пісаньнях Караімы былі больш абавязаны традыцыі, чым яны пагадзіліся б прызнаць.

*Містыцызм.* Сярэднявечная хрысьціянская экзэгеза прызнала дзейнасьць чатырох ясна вызначаных сэнсаў Пісаньня — літаральны (гістарычныя факты), алегарычны (вера), маральны (практычныя дзеяньні), апагагальны (раскрыцьцё ўнутранага сэнсу, эсхаталогія). Падобна да хрысьціянскай схемы, Юдаізм вызначыў чатыры сэнсы як інструменты містычных пабудоваў. У кнізе «Загар» ("Зьзяньне"), збудаванай па форме як каментар на Пяцікніг, накладаецца глыбокае містычнае пранікненьне на інстытуцыяналізаваны Юдаізм. Для прыхільнікаў Кабалы «Загар» стаў трэцім, побач з Бібліяй і Талмудам, фундаментальным сродкам для спалучэньня ўсіх аспектаў жыцьця з духовай сьвядомасьцю і адданасьцю. Яўрэйскі містыцызм стаў вызначальным чыньнікам для многіх містычных рухаў, уключаючы каметападобную кар'еру псеўда-Месыі Сабатая Цві і ўзнікненне Хасідызму.

*Хасідызм.* Васемнаццатае стагодзьдзе ў паўднёва-ўсходняй Эўропе парадзіла Хасідызм — квазімістычны рух як рэакцыю на фармалізм традыцыйных формаў яўрэйскага культу і талмудычнай навукі. Асноўнай рысай новага руху зьявілася постаць праведнага (цадыка), асноўным каналам уплыву якога была пашыраная гамілія, якую цадык выкладаў штодня сваім пасьлядоўнікам. Дзеля надаваньня асноўнага акцэнту малітве і міжчалавечым зносінам, літаратура Хасідаў не выяўляе разьвіцця яўрэйскай экзэгезы, за выключэньнем, бадай, беларускага рацыянальнага Хасідызму — Хабаду. Ад самага пачатку Хасідызм напаткаў моцнае супраціўленьне рабіністычных колаў, лідэрам якіх быў Эліёгу б.Саламон, Віленскі гаон, які пакінуў серыю біблійных каментараў. Лагічна артыкуляваныя і маючыя вялікую інтэлектуальную моц, яны застаюцца з сярэднявечнымі практыкаваньнямі рабінаў Талмуду, выступаючы супраць грэцкіх натур-філёзафаў і іх яўрэйскіх пасьлядоўнікаў.



*Дваццатае стагодзьдзе.* Прагрэсіруючая сацыяльная інтэграцыя яўрэяў у Заходняе грамадства мае вынікам тое, што любое зьвяртаньне яўрэйскіх экзэгетаў да Гэбрайскай Бібліі будзе весьціся на тых самых падставах, што і для іх не-яўрэйскіх калегаў, таму «сучасная яўрэйская біблійная зкзэгеза» наўрад ці зьяўляецца тэрмінам, які мае сэнс. Каментары, якія ўзніклі ў гэтым стагодзьдзі, маючы кансерватыўны падыход, пераймаюць традыцыйную рабіністычную экзэгезу і абыходзяць крытычныя пытаньні. Гітлераўскі генацыд умацаваў распаўсюджаную сярод яўрэяў думку аб тым, што біблійны (большасцю нямецкі) крытыцызм XIX-XX стст. з'яўляецца антысэміцкімі забабонамі, і таму скіраваў нават шмат уладальнікаў заходняй вышэйшай адукацыі на зварот да сярэднявечных яўрэйскіх каментараў, заплюшчваючы вочы на храналагічныя ды іншыя праблемы. Стаўленьне артадаксальных рэлігійных аўтарытэтаў не дае падставы спадзявацца, што ў бліжэйшым будучым узьнікнуць нейкія новыя падыходы і ідэі яўрэйскай экзэгезы.

Пераклаў з ангельскай Віталь ЗАЙКА.

ЗНО

Відарыс





У гэтым выпуску «ЗНО» - графіка Георгія Скрыпнічэнкі (з калекцыі Барыса Крэпака)

*Рада «ЗНО»: Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разаноў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч.*